ВЫДАЕЦЦА З САКАВІКА 1935 ГОДА

# КІРАВЕЦ

СУБОТА, 19 жніўня 2000 года

№ 64 (8133)

*Раённая грамадска-палітычная газета*

*Узнагароджана Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР*

Цана 30 руб.

## ДОШКА ГОНАРУ
## перадавікоў на жніве-2000

### Экіпажы камбайнаў

*Мікалай Мікалаевіч* **Дрозд** *і Мікалай Іванавіч* **Белакурскі** *з калгаса "Рассвет" імя К.П.Арлоўскага на Е-527 намалацілі* **1199 тон збожжа.**

*Міхаіл Васільевіч* **Вербенка** *і Аляксандр Яўгенавіч* **Іваніцкі** *з калгаса "Рассвет" імя К.П.Арлоўскага на "Дон-1500" намалацілі* **983 тоны збожжа.**

*Аляксандр Сяргеевіч* **Петранкоў** *і Аляксей Міхайлавіч* **Макаронак** *з СКП "Ніва" на "Дон-1500" намалацілі* **946 тон збожжа.**

*Фёдар Рыгоравіч* **Петрусёў** *і Сяргей Яўгенавіч* **Максімаў** *з калгаса "Камуніст" на "Дон-1500" намалацілі* **645 тон збожжа.**

*Сяргей Лаўрынавіч* **Іваноў** *і Аляксандр Анатольевіч* **Міхалап** *з СКП "Чырвоны баец" на "Дон-1500" намалацілі* **607 тон збожжа.**

*Дзмітрый Дзмітрыевіч і Віктар Дзмітрыевіч* **Аляксеевы** *з СКП "Чырвоны баец" на "Дон-1500" намалацілі* **598 тон збожжа.**

*Раман Пятровіч і Андрэй Пятровіч* **Канавалавы** *на "Дон-1500" з калгаса "Камуніст" намалацілі* **593 тоны збожжа.**

*Уладзімір Мікалаевіч* **Комар** *і Анатоль Васільевіч* **Вашукевіч** *з калгаса "ІІІ з'езд Саветаў" на "Дон-1500" намалацілі* **537 тон збожжа.**

*Іван Пятровіч* **Лазаковіч** *і Васіль Віктаравіч* **Храмовіч** *з калгаса "ІІІ з'езд Саветаў" на "Дон-1500" намалацілі* **492 тоны збожжа.**

*Сцяпан Апанасавіч* **Стэльмакоў** *і Аляксандр Міхайлавіч* **Маісеенка** *з саўгаса імя Кірава на "Дон-1500" намалацілі* **402 тон збожжа.**

*Аляксандр Міхайлавіч* **Салановіч** *і Сяргей Міхайлавіч* **Чудапал** *з калгаса "Радзіма" на "Дон-1500" намалацілі* **390 тон збожжа, а С.М.Чудапал** на ГАЗ-53 перавёз ад камбайнаў **450 тон збожжа.**

*Уладзімір Аляксеевіч* **Грамыка** *з сынам* **Канстанцінам** *з калгаса "Рассвет" імя К.П.Арлоўскага на СК-5 "Ніва" намалацілі* **389 тон збожжа.**

*Валерый Раманавіч* **Піскуноў** *і Іван Аляксандравіч* **Барысёнак** *з калгаса імя Кірава на "Дон-1500" намалацілі* **269 тон збожжа.**

*Валерый Леанідавіч* **Буднікаў** *і Міхаіл Андрэевіч* **Гушчын** *з калгаса імя Калініна на "Дон-1500" намалацілі* **264 тоны збожжа.**

### На адвозцы

*Валерый Васільевіч* **Шчэрбіч** *з калгаса "Рассвет" імя К.П.Арлоўскага на КамАЗе перавёз ад камбайнаў* **1418 тон збожжа.**

*Андрэй Генадзьевіч* **Ерычаў** *з калгаса "Рассвет" імя К.П.Арлоўскага на КамАЗе перавёз ад камбайнаў* **1362 тоны збожжа.**

*Аляксандр Рыгоравіч* **Ермалаеў** *з СКП "Чырвоны баец" на ЗІЛ-130 перавёз ад камбайнаў* **895 тон збожжа.**

*Васіль Іванавіч* **Архіпенка** *з СКП "Ніва" на КамАЗе даставіў на Бабруйскі КХП* **781 тону збожжа.**

*Уладзімір Васільевіч* **Малахоўскі** *з СКП "Ніва" на ГАЗ-53 Б перавёз ад камбайнаў* **692 тоны збожжа.**

*Васіль Савельевіч* **Комар** *з калгаса імя Кірава на ЗІЛ-130 перавёз ад камбайнаў* **568 тон збожжа.**

*Уладзімір Уладзіміравіч* **Чарапуха** *з калгаса "ІІІ з'езд Саветаў" на ГАЗ-53 перавёз ад камбайнаў* **563 тоны збожжа.**

*Аляксандр Савельевіч* **Сямёнаў** *з калгаса імя Калініна на МТЗ-82 перавёз ад камбайнаў* **450 тон збожжа.**

*Іван Іосіфавіч* **Скрыпуноў** *з саўгаса імя Кірава на КамАЗе перавёз ад камбайнаў* **359 тон збожжа.**

*Міхаіл Андрэевіч* **Нікіфараў** *з СЗАТ "Берасвеўскае" на САЗ-3507 перавёз ад камбайнаў* **351 тону збожжа.**

### *ІНФАРМАЦЫЯ РАЙСЕЛЬГАСХАРЧУ*

**аб ходзе ўборкі збожжавых і зернебабовых культур у гаспадарках раёна на 18 жніўня г.г.**

| Назва гаспадарак | Убрана ў % да пасеянага | Сярэдняя ўраджайн. ц/га | Прададз. дзярж. ў % да плана |
|---|---|---|---|
| «Рассвет» імя К.П.Арлоўскага | 91,3 | 44 | 57,5 |
| СКП «Чырвоны баец» | 90,5 | 35,7 | - |
| СКП «Ніва» | 79,9 | 32,2 | 100 |
| імя Дзяржынскага | 79,9 | 24,4 | 97,2 |
| с-с «Шыннік» | 78,9 | 14,3 | 100 |
| «ІІІ з'езд Саветаў» | 77,8 | 25,0 | 100 |
| «Камуніст» | 69,7 | 25,9 | 70 |
| Жыліцкі сельгаскаледж | 69,7 | 23,4 | 47,6 |
| імя Свярдлова | 68,9 | 11,2 | 45 |
| імя Калініна | 68,5 | 17,1 | 96,8 |
| імя Кірава | 61,2 | 21,0 | 63,6 |
| «Радзіма» | 56,2 | 24,2 | 57,1 |
| с-с імя Кірава | 54,7 | 18,6 | 51,4 |
| «Беларусь» | 53,3 | 15,9 | 75,3 |
| імя Чапаева | 52,1 | 10,7 | 25 |
| СЗАТ «Бераснёўскае» | 52 | 12,9 | 62,5 |
| імя Ільіча | 34,5 | 11,1 | 64 |
| Усяго па раёне: | 68,8 | 25,6 | 65,1 |

*Насустрач выбарам*

# ВЫЛУЧАНЫ КАНДЫДАТАМІ Ў ДЭПУТАТЫ

**Указам Прэзідэнта нашай краіны на 15 кастрычніка бягучага года назначаны выбары дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь другога склікання. Зараз паўсюдна праходзіць вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты, якое будзе доўжыцца да 4 верасня, калі зарэгістраваныя ў вызначаным парадку кандыдаты распачнуць сваю перадвыбарную агітацыю. Згодна заканадаўства вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты праводзіцца шляхам стварэння ініцыятыўных груп і збору подпісаў, ад палітычных партый і ад працоўных калектываў.**

**У сувязі з тым, што ў Палату прадстанікоў Нацыянальнага сходу неабходна выбраць 110 дэпутатаў, кожнага — ад пэўнай колькасці выбаршчыкаў, утвораны адпаведныя выбарчыя акругі, межы якіх выходзяць за памеры аднаго раёна. Наш Кіраўскі раён разам са Слаўгарадскім і Быхаўскім увахозяць у састаў Быхаўскай выбарчай акругі №66 па выбарах дэпутата Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу РБ другога склікання. І нам, сумесна з жыхарамі Слаўгарадшчыны і Быхаўшчыны, неабходна будзе выбраць аднаго дэпутата з ліку зарэгістраваўшыхся па Быхаўскай выбарчай акрузе №66 кандыдатаў у дэпутаты.**

**На гэтым тыдні ў раёне прайшлі сходы працоўных калектываў па вылучэнню кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу РБ другога склікання.**

У сераду ў актавай зале ААТ "Кіраўскае райаграпрамтэхзабеспячэнне" сабраліся прадстаўнікі трох працоўных калектываў: гэтага, аўтабазы №14 і райаграпрамэнергамантажу на агульны сход з парадкам дня: "Аб вылучэнні кандыдата ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу РБ другога склікання". Адкрыў сход старшыня раённага выканаўчага камітэта А.С.Сцяпанчанка. Ён пазнаёміў прысутных з асноўнымі патрабаваннямі Выбарчага кодэксу Рэспублікі Беларусь, біяграфіяй і працоўнай дзейнасцю А.С.Камая, кандыдатура якога працоўнымі калектывамі была прапанавана на вылучэнне кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу РБ другога склікання.

Аляксей Сцяпанавіч Камай — беларус, нарадзіўся ў сялянскай сям'і ў вёсцы Барсукі нашага раёна ў 1936 годзе. Бацька — удзельнік фінскай кампаніі і Вялікай Айчыннай вайны, разам з жонкай працавалі ў мясцовым калгасе, былі інвалідамі, выхавалі чацвёра дзяцей. Пасля заканчэння школы А.С.Камай паступае ў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію, якую заканчвае ў 1959 годзе па спецыяльнасці інжынер-механік, у 1974 годзе заканчвае вышэйшую партыйную школу пры ЦК КПСС у Маскве.

Працоўная дзейнасць А.С. Камая пачынаецца ў 1959 годзе. У перыяд да 1968 года ён працуе механікам саўгаса "Пісараўшчына" Мсціслаўскага раёна, знаходзіцца на камсамольскай рабоце, працуе галоўным інжынерам, а потым начальнікам Бабруйскага раённага вытворчага ўпраўлення сельскай гаспадаркі.

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

*Ураджай-2000*



# НАПРУДЖАННЕ НЕ СПАДАЕ

Жыліцкі сельскагаспадарчы каледж сёлетнюю яравую сяўбу збожжавых правёў ў найлепшыя тэрміны — да 1 мая. Помніцца, як вясной мы з дырэктарам каледжа М.У.Шалкоўскім аб'язджалі палі, і той разпораз, адступаючы ад тэмы размовы, прасіў палюбавацца аксамітам азімага жыта ды пшаніцы, пасевы якіх ушчыльную падступалі да асфальтавай стужкі дарогі. І сапраўды, азімыя радавалі. Вось толькі б надвор'е не падвяло, самосабой падумалася. А яно не надта спрыяла жылічанам. Майская засуха, потым замаразкі зрабілі сваю справу. Падгарэлі пасевы азімай і яравой пшаніцы. Месцамі падгарэлі так, што давялося складаць акты на спісанне плошчаў.

Але тым не менш убраныя ўчасткі азімай пшаніцы далі па 36 цэнтнераў, жыта — 25, больш дваццаці цэнтнераў з гектара ўрадзіў ячмень, неблагі і авёс. Сярэдняя ўраджайнасць на ўчарашнюю раніцу складае 23,4 цэнтнера і, відаць, яна мала чым будзе адрознівацца ад канчатковай.

На аўсяным палетку мы зрабілі здымкі сямейнага экіпажа бацькі і сына Ластачкіных. Для Міхаіла Ягоравіча сёлетняе жніво — дваццатае. Як ён адзначыў, "з'ездзіў" за свой век "Ніву", адзінаццаты год на "Доне". Для сына — гэта трэцяя ўборка, але ж ён толькі ў адзінаццатым класе. На рахунку сямейнага экіпажа каля 400 тон. Генадзь Міхайлавіч Семенчукоў, які з'яўляецца лідэрам сярод вадзіцеляў на адвозцы збожжа ад камбайнаў, перавёз на МАЗе 500 тон.



Практычна без разрыву з абмалотам убіраецца салома з палёў. У першую чаргу з тых, на якіх падсеяна канюшына. Салома пераважна скатваецца ў рулоны, якія ў апошні час не звозяцца з палёў з-за паломкі пагрузчыка. Хочацца верыць, што гэта часовая замінка. На трох прэспадборшчыках працуюць вопытныя механізатары. Гэта Купрэй Іванавіч Іваноў, Аляксандр Кліменцьевіч Крутаў, Леанід Васільевіч Грыбоўскі. Іх стараннем салома ўбрана амаль што на 400 гектарах.



Сёння ў каледжы ўжо думаюць аб будучым ураджаі. Засыпаецца насенне каласавых, а насення жыта і азімай пшаніцы ўжо маецца пад патрэбнасць.

Вядзецца ворыва пад сяўбу азімых, якія будуць размешчаны на 580 гектарах. У каледжы мяркуюць пасеяць 50 гектараў азімай пшаніцы, 300 — жыта, 150 гектараў жыта на зялёны корм. Адзін з лепшых механізатараў каледжа Леанід Аркадзьевіч Жураўлёў на К-700 ужо ўзараў 330 гектараў. За светлавы дзень ён выконвае заданні на 140-150 працэнтаў.

**Пятро СУРЫНОВІЧ.**

**На здымках:** ***Г.М.Семенчукоў; сямейны экіпаж Ластачкіных.***

**Фота аўтара.**

# "СНІД: МНОГАЕ ЗАЛЕЖЫЦЬ АД МУЖЧЫН"

Менавіта гэтыя словы выбраны дэвізам для правядзення 1 снежня бягучага года чарговага Дня прафілактыкі СНІД. Паўсюдна ў межах сусветнай кампаніі супраць гэтай хваробы стагоддзя пройдуць самыя разнастайныя акцыі і мерапрыемствы. Не застаўся ў баку і наш раён. Райвыканкамам распрацаваны і зацверджаны план мерапрыемстваў прафілактычнага, медыцынска-асветніцкага, спартыўнага і масава-культурнага характару на перыяд да 1 снежня. У сувязі з гэтым пад старшынствам намесніка старшыні раённага выканаўчага камітэта А.С.Груздова адбылася рабочая нарада з удзелам кіраўнікоў і адказных асоб зацікаўленых арганізацый — райбальніцы, аддзелаў культуры, адукацыі, па справах моладзі, фізкультуры, спорту і турызму, рэдакцыі раённай газеты, райкама ГА "БПСМ". На ёй былі абмеркаваны маючыя адбыцца мерапрыемствы, расстаўлены акцэнты, план работы, зацверджаны райвыканкамам, прыняты да выканання. Каардынаваць яе даручана намесніку галоўнага ўрача райбальніцы, урачу-дэрматавенеролагу А.Р.Дворкіну.

# СЕНАЖ З АТАВЫ

Блізіцца да завяршэння жніво ў СКП "Чырвоны баец". Парадавалі хлебаробаў сёлета азімыя, на славу ўрадзілі і яравыя культуры. Гаспадарка па ўраджайнасці збожжавых і зернебабовых у раённай зводцы займае другі радок пасля калгаса "Рассвет" імя К.П.Арлоўскага. Адначасова ў "Чырвоным байцы" назапашваюцца кармы для грамадскага статка. У гэтыя дні запасы сенажу, які нарыхтоўваецца з траў другога ўкосу, тут папоўніліся на 400 тон.

Касавіца ў СКП "Чырвоны баец" працягваецца.

# ВЫЛУЧАНЫ КАНДЫДАТАМІ Ў ДЭПУТАТЫ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

З 1968 па 1979 год ён — 1 сакратар Краснапольскага, Бабруйскага райкамаў КПБ, сакратар Магілёўскага абкама партыі па сельскай гаспадарцы. У перыяд з 1979 па 1982 год А.С.Камай працуе загадчыкам сельгасаддзела ЦК КПБ, у наступны перыяд — да 1989 года працуе старшынёй аблвыканкама, 1 сакратаром Гомельскага абкама партыі. З 1989 і па 1991 год ён — сакратар, другі сакратар ЦК КПБ. З 1992 года і па цяперашні час працуе начальнікам аддзела транспартных перавозак, начальнікам рэспубліканскай інспекцыі котланагляду, стандартызацыі і метралогіі Мінсельгасхарчу. Дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу ад Быхаўскага раёна, член камісіі па міжнародных справах і сувязях з краінамі Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Жанаты, мае дваіх дарослых дзяцей: сына і дачку, траіх унучак.

Гаворачы аб А.С.Камаю, кіраўнік раённай "вертыкалі" падкрэсліў, што асабіста знаёмы з Аляксеем Сцяпанавічам больш 10 гадоў і высока цэніць яго чалавечыя і прафесійныя якасці. У падтрымку кандыдатуры А.С.Камая выступіў дырэктар райаграпрамэнергамантажу В.Я.Баранаў, які таксама высока ацаніў здольнасці А.С.Камая, адзначыў, што нават не будучы дэпутатам ад кіраўчан Аляксей Сцяпанавіч унёс уклад у развіццё раёна, у прыватнасці, будаўніцтва жылля.

Прысутныя ў зале задалі А.С.Камаю шэраг пытанняў сацыяльна-эканамічнага і палітычнага характару і атрымалі на іх кампетэнтныя адказы. Прагучаўшыя з залы прапановы вылучыць А.С.Камая кандыдатам у дэпутаты, былі аднадушна падтрыманы ўсімі прысутнымі.

*

На наступны дзень, 17 жніўня, адбыўся яшчэ адзін сход па вылучэнню кандыдата ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу. Праходзіў ён у актавай зале ПМК-255 і сабраў прадстаўнікоў чатырох працоўных калектываў: будаўнічай арганізацыі, ДРБУ-197, прадпрыемства меліярацыйных сістэм і раённага аддзела ўнутраных спраў. Адкрыў сход старшыня райвыканкама А.С.Сцяпанчанка, які выступіў з кароткай прамовай. Потым слова ўзяў У.І.Марозаў, намеснік начальніка Упраўлення Камітэта дзяржбяспекі па Магілёўскай вобласці, палкоўнік. Падкрэсліўшы ў першую чаргу, што ён прадстаўляе не толькі асабіста сябе, як чалавека і асобу, а таксама і арганізацыю ў якой працуе, Уладзімір Іванавіч Марозаў спыніўся на асноўных вехах сваёй біяграфіі і прафесійнай дзейнасці, расказаў аб напрамках і задачах структуры КДБ.

Нарадзіўся У.І.Марозаў 19 кастрычніка 1950 года ў вёсцы Рудэвічы Ружанскага раёна Брэсцкай вобласці ў сям'і настаўнікаў. У 1965 годзе сям'я пераязджае ў вёску Семукачы Магілёўскага раёна, дзе бацька працуе дырэктарам школы, а маці — настаўніцай пачатковых класаў. У 1967 годзе У.І.Марозаў заканчвае школу і сям'я пераязджае ў г. Магілёў.

Сваю працоўную дзейнасць У.І.Марозаў пачаў манцёрам трэцяга разраду тэлефонна-тэлеграфнай станцыі. Пасля службы ў Арміі ў 1971 годзе ён паступае на гістарычны факультэт Магілёўскага педагагічнага інстытута, які заканчвае ў 1975 годзе. Працуе настаў-нікам, завучам СШ №4, СШ №23 г.Магілёва. У 1978 го-дзе ён прызываецца на службу ў Камітэт дзяржбяспекі СССР. Пасля заканчэння ў 1979 годзе Вышэйшых курсаў КДБ СССР прайшоў шлях ад оперупаўнаважанага да намесніка начальніка Упраўлення КДБ Рэспублікі Беларусь па Магілёўскай вобласці. Жанаты. Жонка па спецыяльнасці таваразнаўца, сын — афіцэр, таксама служыць у органах КДБ.

Гаворачы аб службовай дзейнасці, Уладзімір Іванавіч Марозаў падкрэсліў, што асноўным яе кампанентам з'яўляецца прафілактычна-папераджальная работа, коратка спыніўся на такіх напрамках, як забеспячэнне эканамічнай бяспекі, разведка, барацьба з наркаманіяй, тэрарызмам. Важным напрамкам работы з'яўляецца і вяртанне добрага імя людзям, якія былі ў свой час незаконна рэпрэсіраваны.

Адкрытым галасаваннем прысутныя ў зале аднадушна вылучылі У.І.Марозава кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу РБ другога склікання па Быхаўскай выбарчай акрузе №66.

*

Акруговай выбарчай камісіяй зарэгістраваны ініцыятыўныя групы па збору подпісаў для вылучэння кандыдатамі ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу РБ другога склікання па Быхаўскай выбарчай акрузе №66 кіраўчан Мікалая Дзянісавіча Гаўрыленкі, аператара кацельні аўтабазы №14, і Леаніда Пятровіча Лагойкі, інспектара міжраённага каранціннага пункта па Кіраўскаму і Клічаўскаму раёнах.

**Таццяна МАІСЕЕНКА.**

## З апошняй пошты

# АБЛЯГЧАЮЦЬ НАША ЖЫЦЦЁ



Не ведаем, што б мы рабілі, каб побач з намі, састарэлымі жыхарамі вёскі Шпілеўшчына, не было такіх цудоўных жанчын, як Валянціна Аляксееўна Шурын і Святлана Мікалаеўна Сенчукова. Першая працуе малаказборшчыцай, другая — паштальёнам.

З рознымі просьбамі звяртаемся да абедзвюх жанчын: і "хуткую дапамогу" выклікаць, і заказаць газ, і набыць лякарствы, і адправіць пасылку, тэлеграму, і купіць неабходнае ў магазіне, і многае іншае. І не было выпадку, калі б яны нам адмовілі ў чымсьці.

Валянціна Аляксееўна і Святлана Мікалаеўна — чулыя, пяшчотныя, уважлівыя, клапатлівыя жанчыны. Яны нас і выслухаюць, і падбадзёраць, і супакояць.

Вялікі дзякуй ім за сардэчнасць, узаемаразуменне, падтрымку і вытрымку. Няхай ім у жыцці заўсёды ўсміхаецца пяшчотнае сонейка, іх сем'і абыходзіць гора, ніколі не псуецца настрой.

**Ад імя вяскоўцаў Еўдакія Андрэеўна Цярэнцьева.**

## * У працоўных калектывах



*Рабочыя кансервавага цэха Унітарнага вытворчага прадпрыемства "Кіраўскі кансервавы завод" Тамара Аляксееўна Наўрозава і Тамара Макараўна Міхалап прыйшлі на прадпрыемства адначасова — у 1992 годзе. За час работы ў цэху дасканала вывучылі ўсе тэхналагічныя працэсы, сталі сапраўднымі прафесіяналамі сваёй справы. Старанныя, сумленныя і працавітыя абедзве жанчыны карыстаюцца заслужаным аўтарытэтам у калектыве.*

*Зараз кансервавы цэх заняты перапрацоўкай кабачкоў і сухіх яблыкаў, з якіх, у сярэднім за змену, выпускаецца 4 тысячы ўмоўных слоікаў ікры кабачковай і 12 тысяч умоўных слоікаў напіткаў з сухафруктаў. Ва ўсім гэтым ёсць і важкая доля працы Т.А. Наўрозавай і Т.М.Міхалап.*

**Фота Івана Лукановіча.**

## У Камітэце дзяржкантролю

# ПРЫЦЯГНУТЫ ДА АДКАЗНАСЦІ

Пры выбарачнай праверцы асобных пытанняў знешнеэканамічнай дзейнасці суб'ектаў гаспадарання вобласці ўстаноўлены шматлікія факты парушэнняў указаў Прэзідэнта краіны "Аб устанаўленні парадку рэгулявання экспартна-імпартных і валютных аперацый і аб павышэнні адказнасці за парушэнне заканадаўства ў вобласці знешнеэканамічнай дзейнасці" і "Аб удасканаленні парадку правядзення і кантролю знешнегандлёвых аперацый".

Так, па экспартных кантрактах не вернута экспартнай выручкі каля 800000 долараў ЗША. Акрамя таго, устаноўлены факты паступлення замежнай валюты з перавышэннем устаноўленага заканадаўствам тэрміну (МВА "Хімвалакно", ЗАТ швейная фабрыка "АКМА", ГАП-3, ААТ "Спецаўтаматыка" і інш.). Шмат недахопаў у рабоце прадпрыемстваў, арганізацый, камерцыйных структур пры рэгістрацыі экспартных і імпартных статыстычных дэкларацый. Пры змяненні ўмоў кантрактаў не афармляюцца пашпарты здзелак, не вытрымліваюцца ўстаноўленыя тэрміны рэгістрацыі (Прыдняпроўская птушкафабрыка, МАГПА мясной і малочнай прамысловасці). У ААТ "Ардонікс" пры выкарыстанні дагавораў пераводу запазычанасці не ўлічваюцца ўстаноўленыя заканадаўствам абмежаванні.

У выніку праверкі ажыццяўлення абавязковага продажу сродкаў на таргах ААТ "Беларуская валютна-фондавая біржа" на шэрагу прадпрыемстваў устаноўлены факты парушэнняў Указа Прэзідэнта краіны "Аб удасканаленні парадку абавязковага продажу замежнай валюты". Гэта датычыцца МВА "Хімвалакно", ААТ "Спецаўтатэхніка", ТАА "Горка" і інш.

Дапускаюцца шматлікія парушэнні пастановы ўрада "Аб пытаннях цэнаўтварэння пры правядзенні тавараабменных аперацый на ААТ "Масласырбаза", ААТ "Магілёўхлебапрадукт", ААТ "Астон", ЧП "Сяднёў" і інш.

Шэраг парушэнняў Указа Прэзідэнта РБ "Аб увядзенні рэнтавага збору пры ажыццяўленні знешнегандлёвых тавараабменных (бартэрных) аперацый" устаноўлены на ААТ "Магілёўхлебапрадукт", МВА "Хімвалакно" і інш.

Пры праверках устаноўлены парушэнні і іншых дакументаў, якія рэгламентуюць знешнеэканамічную дзейнасць. У прыватнасці, пастанову Міністэрства эканомікі "Аб зацвярджэнні палажэння аб парадку фарміравання і прымянення цэн і тарыфаў", пастаноў урада "Аб упарадкаванні вывазу з РБ тавараў народнага спажывання" і "Аб удасканаленні нетарыфнага рэгулявання знешняга гандлю РБ".

Трэба адзначыць, што прадпрыемствамі, арганізацыямі і камерцыйнымі структурамі часта парушаецца Закон РБ "Аб дзяржаўнай статыстыцы": не прадастаўляецца або прадастаўляецца недакладная інфармацыя органам дзяржаўнай статыстыкі аб знешнегандлёвай дзейнасці па формах статыстычнай справаздачнасці №№2, 3. Гэта такія прадпрыемствы, як ААТ "Горка", саўгас-камбінат "Усход", ААТ "Магілёўхлебапрадукт" і інш.

Асноўнымі прычынамі парушэння заканадаўства па знешнегандлёвай дзейнасці з'яўляюцца: недастатковая работа кіраўніцтва прадпрыемстваў і падпарадкаваных ім службаў па вывучэнню і правільнаму выбару гандлёвых партнёраў, асабліва камерцыйных структур Расійскай Федэрацыі і Украіны, што цягне за сабой сумныя вынікі па ходу выкананых заключаных здзелак; слабае веданне кіраўнікамі, галоўнымі бухгалтарамі, спецыялістамі суб'ектаў гаспадарання дзеючага заканадаўства, якое рэгламентуе ажыццяўленне знешнеэканамічнай дзейнасці і валютных аперацый на тэрыторыі рэспублікі; непрыняцце мер кіраўнікамі прадпрыемстваў па вяртанню экспартнай выручкі, адсутнасць кантролю па дадзенаму пытанню за дзейнасцю адпаведных службаў. Па розных прычынах не прад'яўляюцца прэтэнзіі і не перадаюцца іскі па кампенсацыі страт ў судовыя інстанцыі. Акрамя таго, у большасці знешнегандлёвых кантрактаў не агаворваецца ахова ўласных інтарэсаў, што дае падставу несумленным партнёрам не захоўваць дагаворныя абавязацельствы.

На прадпрыемствах вобласці недастаткова арганізавана работа маркетынгавых службаў па вывучэнню рынкаў збыту гатовай прадукцыі і набыццю сыравіны, камплектуючых для яе вырабу. Як вынік, тавар рэалізуецца на экспарт праз шматлікія камерцыйныя структуры, у якіх і асядае валютная выручка, а прадпрыемствы-вытворцы застаюцца без неабходных валютных сродкаў.

За 6 месяцаў бягучага года за выяўленыя парушэнні ў сферы знешнеэканамічнай дзейнасці прыменена эканамічных санкцый на 352,5 мільёна рублёў, спагнана — 55,8. Да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнуты 24 чалавекі на суму 463 тысячы рублёў.

Упраўленне валютнага кантролю сумесна з адпаведнымі службамі аблвыканкама ажыццяўляюць кантроль за ходам выканання дзяржаўнай праграмы імпартазамяшчэння, распрацаванай у адпаведнасці з Указам Прэзідэнта краіны ад 2.10.1996 г. У дадзеную праграму ўключана 8 прадпрыемстваў вобласці, у той час як імпартуюць прадукцыю звыш 60 прадпрыемстваў. Акрамя таго, выпалі з дадзенай праграмы прадпрыемствы недзяржаўнай формы ўласнасці. Вывучэнне выканання дадзенай праграмы паказала, што не ўсе праекты былі рэалізаваны ў поўным аб'ёме. Адной з прычын з'явілася адсутнасць дадатковага фінансавання з рэспубліканскага бюджэту.

У цяперашні час аблвыканкамам распрацоўваюцца прапановы ў праект Дзяржаўнай праграмы імпартазамяшчэння на 2001 год. Аднак, ні адзін гаррайвыканкам не ўнёс сваіх прапаноў у дадзены праект, спасылаючыся пры гэтым на той факт, што рэалізацыя папярэдніх праектаў ажыццяўлялася са сродкаў капітальных укладанняў прадпрыемстваў.

У сувязі з гэтым мэтазгодна звярнуць увагу адпаведных службаў гарадскіх, раённых выканаўчых камітэтаў, кіраўнікоў прадпрыемстваў на дэталёвае вывучэнне рацыяналізацыі імпарту ў маштабах сваіх рэгіёнаў, прадпрыемстваў, уключыць дадзенае пытанне ў мерапрыемствы па стабілізацыі фінансава-эканамічнага становішча.

Камітэтам дзяржкантролю вобласці сумесна з праваахоўчымі органамі праводзіцца работа па выкананню патрабаванняў Дэкрэта Прэзідэнта РБ "Аб мерах па забеспячэнню парадку пры ажыццяўленні валютных аперацый".

За студзень-чэрвень бягучага года праведзена 1970 рэйдаў-праверак, складзена 982 адміністрацыйныя пратаколы; канфіскавана: 48959 долараў ЗША, 1640 нямецкіх марак, 70,4 тысячы расійскіх рублёў, 14685 тысяч беларускіх рублёў. Канфіскаваная валюта ў беларускіх рублях па курсу Нацбанка РБ на дзень канфіскацыі склала 44586 тыс.рублёў. На 226 чалавек накладзены адміністрацыйны штраф на 14741,7 тыс.рублёў. Спагнана 6823 тыс.рублёў адміністрацыйных штрафаў. 445 грамадзян падвергнуты адміністрацыйнаму арышту. Узбуджана 29 спраў па арт. 85-1 Крымінальнага Кодэксу РБ.

Супрацоўнікамі УГКФР па Магілёўскай вобласці 13 чэрвеня г.г. у раёне в.Паўлаўка Магілёўскага раёна пасля ажыццяўлення акта куплі-продажу 300 электрабытавых помпаў "Ручаёк" за долары ЗША былі затрыманы жыхар г.Магілёва І.Л.Кавалёў і жыхар г.Барысава А.А.Грынь. На іх складзены адміністрацыйныя пратаколы за парушэнне п.2 Дэкрэта Прэзідэнта №1 ад 5.07.97 г. Рашэннем суда Магілёўскага раёна ад 14.06.2000 г. І.Л.Кавалёў падвергнуты адміністрацыйнаму арышту тэрмінам на 8 сутак з канфіскацыяй 3025 долараў ЗША. А.А.Грынь аштрафаваны на 260 тыс. рублёў з канфіскацыяй 57 долараў ЗША, 9,4 тыс. беларускіх рублёў, а таксама ў яго канфіскаваны электрапомпы "Ручаёк" на 4,2 мільёна рублёў.

Улічваючы тое, што ў вобласці знешнеэканамічнай дзейнасці маюць месца факты парушэння заканадаўчых і нарматыўных актаў, Камітэт дзяржкантролю прапаноўвае прыняць меры па паляпшэнню работы службаў гаррайвыканкамаў, якія займаюцца пытаннямі знешнеэканамічнай дзейнасці, а таксама адпаведных службаў на прадпрыемствах і інфармаваць праз сродкі масавай інфармацыі аб мерах адказнасці за парушэнне патрабаванняў Дэкрэта Прэзідэнта рэспублікі "Аб мерах па забеспячэнню парадку пры ажыццяўленні валютных аперацый".

## Куток для дзяцей

### ЧТО ЗА ЗВЕРЬ?

***Шли мы с дочкой вдоль опушки***
***По тропинке на реку.***
***Я сказал:***
***— Постой, подружка,***
***Дай пройти бурундуку.***
***Ей — три годика пока,***
***Пропустили мы зверька.***
***Дальше топаем к реке***
***По тропинке налегке.***
***Закричала дочка, вдруг:***
***— Папа!. Папа!..Ерундук!***

### ПЕРШАЕ КАХАННЕ

*Упершыню я закахаўся яшчэ ў чацвёртым класе. Аднак толькі цяпер, калі перайшоў у восьмы, зразумеў, што раней у мяне было не каханне, а проста захапленне.*

### МАЯ СЯМ'Я

*Наша сям'я не надта вялікая: тата, мама, я, брацік, сястрычка, папугай і такса.*

### ЛЮБІМЫ ЗАНЯТАК

*Мой любімы занятак — дражніць кошку Мурку, бацькаў — гуляць ў даміно, маці — гутарыць па тэлефоне. А любімы занятак майго брацікa — абліваццa слязьмі.*

### УСМІХНЕМСЯ

***— Ты хутка скончыш школу, сын, і мы з маці хацелі б, каб ты стаў ўрачом.***

***— Што ты, татачка, вы ж ведаеце, што я не здольны забіць нават муху.***

**Вучань капае зямлю.**

***— Што ты робіш?***

***— Настаўніца па алгебры дала заданне знайсці квадратны корань. Вось я і шукаю.***



### МАСТАК

***Маляваць я вельмі рады,***
***Паглядзіце вы, рабяты:***
***Фарбы каляровыя***
***І на ўсё гатовыя —***
***Упрыгожаць мой малюнак***
***Будзе маме падарунак!***

## Ваша здароўе
# ЧЫМ НЕБЯСПЕЧНЫ СІФІЛІС

У апошні час у нашым раёне ўзрасла колькасць венерычных захворванняў. Сумны той факт, што сярод хворых сустракаецца шмат моладзі. Амаральныя паводзіны, выпадковыя палавыя сувязі, часцей за ўсё ў стане алкагольнага ап'янення — галоўныя прычыны заражэння.

Сіфіліс — найбольш цяжкае з такіх захворванняў не толькі для хворага, але і для яго патомства.

Насцярожвае той факт, што ў апошні час узрасла колькасць выпадкаў заражэння маленькіх дзяцей у сем'ях, дзе яны пражываюць з хворымі бацькамі.

Хочацца прывесці некалькі прыкладаў заражэння на сіфіліс. Хворы, 16 гадоў, уступаў у бязладныя палавыя сувязі, заразіў 3-х палавых партнёраў. Хворая, якая жыла бязладным палавым жыццём, заразіла 2-х палавых партнёраў.І гэты пералік прыкладаў можна прадоўжыць далей. Вельмі часта палавыя партнёры хворыя на сіфіліс утойваюць свае сувязі, што прыводзіць да росту захворваемасці на сіфіліс, пераходу ад ранніх форм ў позния. Калі хворыя ўхіляюцца ад абследавання, яны падвяргаюць рызыцы захворвання ўсіх акружаючых.

Першыя знешнія прыкметы захворвання праяўляюцца не адразу пасля заражэння, а праз пэўны час, які называецца інкубацыйным перыядам. Яго працяглaсць — ад 3 тыдняў да 6 месяцаў. На месцы пранікнення ўзбуджальніка сіфілісу ўтвараецца язвачка (або некалькі), звычайна небалючая, з роўнымі краямі, цвёрдая. Праз сем дзён пасля з'яўлення язвы павялічваюцца, становяцца шчыльнаэластычнымі блізкія да язвы лімфатычныя вузлы.

Калі мужчыны без цяжкасцей могуць заўважыць ў сябе праяўленне сіфілісу, то жанчынам гэта ўдаецца не заўсёды, бо язва можа быць на шыйцы маткі.

Усяго пярвічны перыяд сіфілісу працягваецца 5-6 тыдняў. Неабходна, каб хворы пачаў лячэнне, менавіта на гэтай, першай стадыі захворвання. Калі лячэнне не пачата, то ў сярэднім праз 6 месяцаў пасля з'яўлення язвачкі пачынаецца другі перыяд сіфілісу, набліжэнне якога малапрыкметнае для хворага. Аднак у некаторых пацыентаў павышаецца тэмпература, узнікае агульная слабасць, начны галаўны боль, бяссоніца, боль у касцях і мышцах, развіваецца малакроўе. Для другога перыяду характэрны высыпанні на скуры і слізістых абалонках, часцей за ўсё ў выглядзе чырвоных плям, пераважна на жываце і грудзях. Сып не выклікае звычайна ніякіх балявых адчуванняў, таму хворымі ўспрымаецца як праяўленне харчовай ці лякарственнай алергіі або прастуды.

У другім перыядзе сіфілісу могуць паражацца ўнутраныя органы: печань, ныркі, сасуды, сэрца, а таксама косці і суставы. Асабліва цяжкімі і незваротнымі бываюць змены нервовай сістэмы, якія працякаюць непрыкметна і выяўляюцца толькі пры дэталёвым даследаванні.

У сярэднім другі перыяд сіфілісу працягваецца да 3 гадоў. Усё наступнае цячэнне хваробы залежыць ад якасці праводзімага лячэння і захавання хворым рэжыму, назначанага ўрачом. Калі ў гэтых адносінах будуць назірацца парушэнні, то сіфіліс пераходзіць у трэці перыяд, небяспечны больш сур'ёзнымі ўскладненнямі, чым першыя два. Самае страшнае ўскладненне— гэта паражэнне касцей і ўнутраных органаў: печані, лёгкіх, нырак, сэрца, буйных сасудаў (аорты). Пры паражэнні нервовай сістэмы назіраюцца псіхічныя захворванні, слепата, параліч, прыпадкі, нагадваючыя эпілепсію. Калі будзе закрануты спінны мозг, парушаецца каардынацыя рухаў. Пры недастатковым лячэнні трэці перыяд сіфілісу можа цягнуцца доўгія гады. Высыпанні перыядычна паўтараюцца праз 20-30 гадоў. Адначасова паражаюцца ўнутраныя органы і нервовая сістэма, чалавек становіцца інвалідам.

**Алег ДВОРКІН, урач-дэрматавенеролаг райбальніцы.**



**Сем'і І.У.Коўрыка і Т.У.Какалюк** падзяляюць вялікае гора з Аленай Мікалаеўнай **ВАРОНІЧ і яе СЯМ'ЁЙ** з выпадку смерці **МАЦІ, ЦЕШЧЫ, БАБУЛІ.**

**Сям'я У.І.Малахава** выказвае глыбокае спачуванне **Анатолю Рыгоравічу ВІШНЕЎСКАМУ і яго СЯМ'І** з выпадку напаткаўшага іх вялікага гора — смерці **БАЦЬКІ, СВЁКРА, ДЗЯДУЛІ.**

**Калектыў работнікаў раёна газазабеспячэння** выказвае глыбокае спачуванне **Анатолю Рыгоравічу ВІШНЕЎСКАМУ і яго СЯМ'І** з выпадку смерці **БАЦЬКІ, СВЁКРА, ДЗЯДУЛІ, ПРАДЗЯДУЛІ.**

**Педкалектыў СШ №2 імя К.П.Арлоўскага** выказвае глыбокае спачуванне **Тамары Міронаўне МІХАЛАП і яе СЯМ'І** з выпадку смерці **МУЖА, БАЦЬКІ, ДЗЯДУЛІ.**

**Жыхары 1-га пад'езда дома №71 па вуліцы Гагарына райцэнтра** выказваюць глыбокае спачуванне **Мікалаю Уладзіміравічу БЯЛЯЎСКАМУ і яго СЯМ'І** з выпадку дачаснай смерці **БРАТА, ДЗЯДЗЬКІ.**

**Сям'я А.С.Каранкевіча** выказвае глыбокае спачуванне **Марыі Іларыёнаўне БЯЛЯЎСКАЙ, яе ДЗЕЦЯМ і ЎНУКАМ** з выпадку напаткаўшага іх вялікага гора — смерці **МУЖА, БАЦЬКІ, ДЗЯДУЛІ.**


**Рэдактар Пятро СУРЫНОВІЧ**

*Заснавальнікі: Кіраўскі раённы выканаўчы камітэт, Кіраўскі раённы Савет дэпутатаў, рэдакцыя газеты "Кіравец"*

**Рэгістрацыйны № 285.**
**Падпісана да друку ў 17 гадзін.**

Наш адрас: *Рэспубліка Беларусь, 213940, Магілёўская вобласць, г. п. Кіраўск, вул. Пушкінская, 15.*
Тэлефоны: *рэдактар 21-2-63, намеснік рэдактара, адказны сакратар, аддзел грамадска-палітычнага жыцця 21-5-69, аддзелы аграпрамысловага комплексу і экалогіі, пісьмаў і сацыяльных праблем 21-5-35, бухгалтэрыя 21-4-76, спецыялісты настольна-выдавецкай сістэмы 21-3-93.*

*Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і сапраўднасць фактаў.*
*Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннямі рэдакцыі.*
*Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.*

*Аб'ём — адзін друкаваны аркуш*
*Газета выходзіць у сераду і суботу на беларускай мове.*
*Індэкс газеты - 64077. Заказ 3540.*
*Бабруйская ўзбуйнёная друкарня імя Непагодзіна, вул. Сацыялістычная,103.*
*Друк афсетны. Тыраж 2777.*